# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№7 (206)
ліпень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:





## СЛУЦКІ ПОЯС, ЗУБР, ХРЭН І КАНЮШЫНА – НОВЫЯ ЦІШОТКІ АД “БУДЗЬМЫ”!

Што агульнага паміж канюшынай, зубром і слуцкімі паясамі? Усе гэтыя сімвалы Беларусі цяпер на новых цішотках ад кампаніі “Будзьма беларусамі!”.

Слуцкі пояс – дарагі і вельмі адметны аксесуар, які насілі нашыя продкі. Традыцыя вырабу гэтых паясоў сягае ў XVIII стагоддзе, але дазволіць яго сабе мог далёка не кожны. Наяўнасць пояса сімвалізавала не проста заможнасць, але і прыналежнасць да эліты. Сёння слуцкі пояс – сапраўдны скарб беларускай культуры. Адзінкавыя экзэмпляры захоўваюцца ў Беларусі, а большасць знаходзіцца ў калекцыях па ўсім свеце.

Зубр – бясспрэчны сімвал Беларусі. Моцны, дужы, упарты. Яшчэ Мікола Гусоўскі ў XVI стагоддзі апісаў яго якасці ў сваёй “Песні пра зубра”. Зубр – спакойны, разважлівы, рахманы, упэўнены ў сабе. Ніколі не кране першым. Але калі ўжо зачапіць яго ды раззлаваць, то ўтаймаваць цара звяроў будзе вельмі складана. Ну проста як беларус!

Канюшына – гэта адзін з сімвалаў Беларусі. Яна займае пачэснае месца паміж лёнам і валошкамі. Даўней беларусы верылі ў тое, што канюшына нясе ў сабе энергію маладосці і прыгажосці, а таксама прыносіць шчасце. Таму яе рупліва збіралі, сушылі ды насілі з сабой. Цяпер не трэба прыкладаць такіх высілкаў, бо, каб пачувацца шчаслівым, дастаткова прыдбаць сабе цішотку з выявай гэтай расліны.

А яшчэ канюшыну касілі, бо яна найлепшы корм для жывёл.

Хіба знойдуцца яшчэ тыя, хто не чуў “Касіў Ясь канюшыну” ад легендарных “Песняроў”? Цішотка “Always канюшына з косамі” – для сапраўдных меламанаў!

Хрэн – адна з самых любімых беларусамі прыпраў дзякуючы востраму смаку ды паху. З пракаветных часоў ён быў незаменным дадаткам да многіх страваў нашай кухні, найперш мясных. І цяпер у многіх беларускіх сем’ях жыве традыцыя церці хрэн сваімі рукамі, а не набываць у краме, бо свой лічыцца смачнейшым! І добра, па-нашаму прыгатаваны хрэн – гэта вам не лімон, ён не мусіць быць кіслым.

З часам сетка крамаў, дзе можна набыць фірмовыя цішоткі і торбы з дызайнам ад “Будзьмы”, будзе пашырацца. Інфармацыя пра гэта з’явіцца на сайце budzma.by.

Будзь адметным! Апранайся ў стылі “Будзьма”!



навіны

# ГРУШЫНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ З БЕЛАРУСКІМ АКЦЭНТАМ

Самарская абласная арганізацыя беларусаў і выхадцаў з Беларусі "Руска-Беларускае Братэрства 2000" узяла ўдзел у Міжнародным фестывалі аўтарскай песні імя Валерыя Грушына.



На пачатку ліпеня самарская зямля ў чарговы раз стала цэнтрам бардаўскай песні. Тут з 4 па 7 ліпеня на Маструкоўскіх азёрах праходзіў 46-ы Грушынскі фестываль, на якім працавала пятнаццаць розных тэматычных сцэн-эстрад разам з галоўнай пляцоўкай на вадзе ў форме гітары – традыцыйным месцам правядзення гала-канцэрта і галоўным сімвалам фестывалю.

Беларусы Самарскай вобласці былі запрошаны на пляцоўку "Перамога". Менавіта на гэтай сцэне на працягу ўсіх дзён творчага форуму аўтарскай песні праходзілі мерапрыемствы на ваенна-патрыятычную тэматыку.

– Выступіць на тэматычнай сцэне "Перамога" нам прапанаваў Аляксей Халітаў, яе кіраўнік. Мы з радасцю пагадзіліся і прынялі рашэнне ўсе нашы мерапрыемствы прысвяціць знамянальнай даце – 75-годдзю вызвалення беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якую ў гэтым годзе адзначае наша гістарычная Радзіма, – распавядае Андрэй Кірылюк дырэктар "Руска-Беларускага Братэрства 2000".

Трэба адзначыць, што Андрэй Кірылюк узяў непасрэдны ўдзел у рабоце сцэнічнай пляцоўкі "Перамога". Трыа ў складзе Аляксея Халітава, аўтара-выканаўцы, кампазітара, паэта, лаўрэата усерасійскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў, Сяргея Кузняцова, аўтара, кампазітара, выканаўцы, музычнага кіраўніка Творчага аб'яднання ваенных аўтараў-выканаўцаў "Поющая застава" і Андрэя Кірылюка выканалі песні ваенных гадоў і кампазіцыі Сяргея Кузняцова – "Здравствуйте, люди", "Если б в 41-м", "Эх, пехота", "Обнимите друзей"... У выкананні інтэрнацыянальнага трыа прагучала і легендарная "Катюша", якой летась споўнілася восемдзесят гадоў – упершыню песня была выканана 27 лістапада 1938 года ў Калоннай зале Дома Саюзаў у Маскве. Таксама згадалі мэтра аўтарскай песні, паэта і кампазітара Булата Акуджаву. Сёлета 9 мая яму споўнілася б 95 гадоў. У выкананні творчага калектыву прагучала яго песня "Здесь птицы не поют..."

Ірына Міхайлаўна Глуская, прэзідэнт САГА "Руска-Беларускае Братэрства 2000", з гонарам кажа, што ў Андрэя Кірылюка сапраўдны беларускі характар, таму для яго ўласцівае моцнае пачуццё адказнасці:

– І гэта не выпадкова, яму было ў каго вучыцца і з каго браць прыклад. Яго бабуля Валянціна Біруковіч, па мужу Мусіенка, была родам з Бабруйска. І на творчым форуме аўтарскай песні ён прадставіў беларусаў Самарскай вобласці вельмі годна!

Акрамя самарскіх беларусаў у адборачным туры Грушынскага фестывалю – 9-м Міжнародным Грушынскім інтэрнэт-конкурсе – бралі ўдзел і беларусы з гістарычнай Радзімы – Рэспублікі Беларусь, і многія з іх у выніку сталі лаўрэатамі і дыпламантамі. Дыплом пераможцы ў намінацыі "Бард" атрымаў Іван Пачывалаў з Гродна за кампазіцыю "Белый груздь, чёрный груздь", прызёрамі ў намінацыі "Бард" сталі Таццяна Салаўёва з Гродна за песню "Ты приходишь издалека" і Любоў Акунёва з Гомеля за песню "Карелия", а ў намінацыі "Паэзія" – прызёркай стала гамяльчанка Алёна Асенчык.

Нашы суайчыннікі ў розныя гады станавіліся лаўрэатамі Грушынскага фестывалю. Упершыню – яшчэ на 10-м Грушынскім фестывалі ў 1977 годзе. Гэта быў творчы калектыў з Мінска "Геликтит". А трыа "Фиеста" з Маладзечна (Таццяна Багавец – гітара, вакал, Наталля Паўлюшчык – гітара, вакал, Святлана Кулашка – флейта, перкусія, вакал) зрабілася лаўрэатам ў 1993 годзе.

Чатыры разы беларускія барды атрымлівалі галоўныя прызы і ў аўтарскай намінацыі. Адзін з іх, Барыс Вайханскі з Мінска, дыплом пераможцы атрымаў у 1978 годзе за песню "Прощайте, милые места".

Грушынскі фестываль, гэты найбуйнейшы ў свеце творчы форум аўтарскай песні, пачынаючы з 1968 года штогод збірае дзясяткі тысяч аматараў з усіх куткоў нашай планеты. За ўвесь час яго існавання каля 200 аўтараў і выканаўцаў, дуэтаў і ансамбляў сталі лаўрэатамі і атрымалі пуцёўку ў творчае жыццё. Пацвярджэннем гэтага можа служыць творчасць нашага суайчынніка Барыса Вайханскага. Па сцвярджэнні саміх наведнікаў Грушынскіх фестываляў, нават просты ўдзел у ім можа кардынальна змяніць жыццё...

– У 1995 годзе я скончыла Іванаўскае абласное вучылішча культуры, рэжысёрскі факультэт, – распавядае сваю гісторыю Любоў Акунёва, прызёрка 9-га Міжнароднага Грушынскага інтэрнэт-конкурсу. – Працавала актрысай, рэжысёрам, педагогам тэатральных класаў. А пасля Грушынскі фестываль змяніў усё маё жыццё. Я была мастацкім кіраўніком сцэны "Кольскі Грудок" і там у 2010 годзе пазнаёмілася з беларускім волатам Аляксеем, які павёз мяне ў Гомель. Зараз у нас трое дзетак. Калі выйду з дэкрэтнага адпачынку, вярнуся ў Гомельскі клуб аўтарскай песні гарадскога Цэнтра культуры, дзе працавала да нараджэння малодшай дачкі.

**Мікалай Бойка,**
**"Руска-Беларускае Братэрства 2000"**

# У ІРКУЦКУ ПРАЙШОЎ "ДЗЕНЬ БЕЛАРУСІ"

Абласное свята "Дзень Беларусі", якое ўпершыню прайшло 6 ліпеня ў горадзе Усоле-Сібірскае, было прымеркавана да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 75-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На свята з'ехаліся беларусы з усёй Іркуцкай вобласці. Самая вялікая дэлегацыя была з Чаромхава, але таксама шмат людзей прыбыло з Тайшэта, Іркуцка, Куйтуна і з Усольскага і Заларынскага раёнаў. Удзельнікаў віталі мэр горада Максім Таропкін, старшыня Усольскага беларускага таварыства Наталля Дрэйгал, старшыня Рэгіянальнай грамадскай арганізацыі "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага" Алена Сіпакова і кіраўнік Грамадскай арганізацыі "Мясцовая нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Чаромхава Іркуцкай вобласці" Васіль Ракіта.

Урачыстасці з удзелам творчых калектываў горада і вобласці праходзілі каля ДК "Мір", праграма была вельмі насычаная. Адным з самых яскравых быў выступ тайтурскага харэаграфічнага ансамблю "Усмешка", які ўсіх скарыў выкананнем беларускіх танцаў. Пранікнёна спяваў пра Беларусь чарамхоўскі хор "Ветэраначка". Прафесійна выконвалі песні на беларускай мове усольскія калектывы "Званніца" і "Ззянне". Усальчане яшчэ доўга будуць з цеплынёй згадваць яскравыя выступы Аляксандры Лабар, "Агітбрыгады "Зорка", ансамблю эстраднага танцу "Серпантын", "Чабаркі", "Ялінак", клуба "Каўчэг". З беларускім фальклорам гледачоў пазнаёмілі ансамблі "Сунічкі", "Кветачак", "Ленушка", "Беларусы Прыбайкалля" і "Отрада". Акрамя гэтага ладзіліся беларускія народныя гульні і забавы, а ўся плошча пераўтварылася ў вялізную выставу беларускіх рамёстваў з майстар-класамі па вышыўцы, ткацтве, саломапляценні, вязанні і вырабе лялек. Госці свята маглі пакаштаваць стравы беларускай кухні: дранікі, каўбасы, халадзец, "узвар", запечаную ў чыгунку бульбу і іншыя прысмакі.

Усіх удзельнікаў узнагародзілі дыпломамі і памятнымі падарункамі. Завяршылася свята вялікім дружным карагодам.

Мерапрыемства прайшло пры падтрымцы Упраўлення губернатара Іркуцкай вобласці і Урада Іркуцкай вобласці па сувязях з грамадскасцю і нацыянальных адносінах, аддзелу культуры



УСКП і адміністрацыі горада Усолле-Сібірскае, РГА "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага".

Праект "Дзень Беларусі" – гэта пераходзячае мерапрыемства, заснаванае грамадскімі беларускімі арганізацыямі Іркуцкай вобласці. У 2020 годзе прымаючым бокам абраны горад Іркуцк.

Зычым поспеху іркуцкім калегам – і да новай сустрэчы!

**Алена Сіпакова, Іркуцкае таварыства**
**беларускай культуры імя Я. Чэрскага**

**гутарка**

# Алег Рудакоў: ВЯЗЕМ З ІРКУЦКА ТОЕ, ШТО БЫЛО ТУДЫ ВЫВЕЗЕНА З БЕЛАРУСІ

Нястомны актывіст Іркуцкага моладзевага клуба "Крывічы" і сябра Рады "Бацькаўшчыны" Алег Рудакоў у свой прыезд на радзіму па традыцыі завітаў і да нас на сядзібу. Гэтым разам давялося пагутарыць і пра рэчы, якія радуюць "Крывічоў" у Беларусі, і пра тое, што трывожыць іх у Іркуцку. А яшчэ пра надзвычай удалы і шматлюдны выступ Алега Рудакова і Вольгі Галанавай у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, які адбыўся напярэдадні нашай сустрэчы.



**– Ведаем, што днямі Вы вельмі ўдала выступілі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

– А перад гэтым яшчэ выступалі на фестывалі "Наш Грунвальд 2019"... Я найперш жадаю падзякаваць Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" і асабіста Ніне Шыдлоўскай і Анастасіі Комлік-Ямацінай за тое, што натхнілі на прыезд і паспрыялі, каб наш гурт атрымаў запрашэнне на гэты фестываль сярэднявечнай культуры. Атмасфера фестывалю нам надзвычай спадабалася. Там збіраюцца людзі па-добраму апантаныя, вельмі патрыятычныя і, што асабліва цешыць, маладыя. У гэты прыезд мы пасябравалі з гарадзенскімі хлопцамі з гурта "Варта часу", з барысаўскімі дзяўчатамі з гурта "Вір". Дый наогул падарожжа атрымалася, можна сказаць, феерычным. Не паспелі мы дабрацца да Беларусі, як адразу правялі некалькі сустрэч, далі безліч інтэрв'ю для прэсы, радыё, тэлебачання – і дзяржаўнага, і недзяржаўнага. Фестываль доўжыўся два дні, два дні мы з поспехам па паўгадзіны выступалі на цэнтральнай сцэне, кожны раз з новай праграмай.

**– І якія ж нумары Вы паказвалі аматарам сярэднявечча?**

– Для гэтага прыезду падрыхтавалі шмат песень і танцаў беларусаў Іркуцкай вобласці. Не адзін год збіралі і запісвалі іх у нашых этнаграфічных экспедыцыях па вёсках Іркуччыны, заснаваных перасяленцамі з Беларусі 1902–1912 гадоў, у тым ліку падчас сталыпінскай рэформы. Карацей, мы, як заўжды, з Іркуцка вярталі ў Беларусь тое, што было туды ў свой час вывезена з Беларусі.

**– А хіба ў нас тут свайго няма, што на ваш "тавар" такі попыт?**

– На сустрэчы прыходзяць фалькларысты, дык яны часта сведчаць, што некаторых песень ніколі не чулі. А ў некаторых знаходзяць цікавыя асаблівасці: у тэкстах, у манеры выканання. І такая самая сітуацыя з танцамі. На "Грунвальдзе" некаторыя знаўцы прызнаваліся, што не ведалі пра танцы "Падгорная", "Чацвёра". А ў беларускіх вёсках пад Іркуцкам гэта самыя звычайныя танцы. Хто ведае, чаму так сталася. Можа на Іркуччыне нешта захавалася, у той час як у Беларусі знікла, альбо пад уздзеяннем часу і небеларускага асяроддзя нешта трансфармавалася... Я, бывае, паўжартам кажу, што нядоўга засталося, і неўзабаве супольнасць "беларусы Прыбайкалля" набудзе выразныя рысы, аформіцца, пачне вылучацца сваёй адметнай традыцыяй. Бо клуб жа наш увесь час шырыцца, моладзь – прыходзіць. Да нашага актыву хтосьці далучаецца пасля кожнага масавага свята. Нядаўна на дзень горада, нягледзячы на тое, што ішоў дождж і многія перадумалі на яго ісці, усё ж сабралі калону ў 28 чалавек.

**– І пасля гэтыя актывісты распаўсюджваюць беларушчыну ў іншых асяродках?**

– У тым ліку. Але ўсё ж такі галоўная наша місія – гэта захоўваць і вывучаць у горадзе беларускую традыцыю, а пасля адраджаць, вяртаць яе ў беларускую вёску. Робяць гэтую справу розныя людзі, і, такім чынам, усё гэта пашыраецца па вобласці, па вёсках. У некаторых з'яўляюцца фальклорныя гурткі, дзіцячыя гурткі. У вёсцы Тургенеўка Баяндаеўскага раёна настаўніца фізкультуры абгрунтавала неабходнасць унесці змены ў навучальную праграму – замяніць частку ўрокаў фізкультуры танцамі. Вядома, беларускімі.

**– То бок святы ладзіце толькі каляндарна-абрадавыя?**

– Неабавязкова. У жніўні будзем арганізоўваць вяселле – адна пара вырашыла пабрацца шлюбам цалкам у беларускім каларыце, па ўсіх правілах. А 15 верасня – так, у вёсцы Аляксандраўск Аларскага раёна святкуем Дажынкі. Далей – Багач, Пакровы, Каляды, Гуканне Вясны, Купалле ды іншыя святы. Паміж імі – гістарычныя вечарыны, пасяджэнні літаратурна-гістарычнага клуба "Мысляры Беларусі" – апошняе такое было ў траўні, прысвечанае памяці Васіля Быкава. Карацей, штомесяц у нас бывае па некалькі мерапрыемстваў.

**– Вернемся да выступу "Крывічоў" у Музеі...**

– Гледачоў у музей прыйшло блізу паўсотні чалавек! І старыя сябры, і людзі, з якімі дасюль стасаваліся толькі віртуальна, праз сацсеткі... З гэтай сустрэчы засталіся відэазапісы, усё можна паглядзець у інтэрнэце.

**– Дарэчы, у мінулую сустрэчу Вы расказвалі, што плануеце выпускаць мультымедыйную прадукцыю.**

– Гэта яшчэ наперадзе. Па ўсім відаць, гэта будуць дзве кружэлкі: відэа па беларускіх танцах, адмыслова зробленае такім чынам, каб з яго дапамогай танцам можна было і навучацца, а таксама аўдыё – аўтэнтычныя спевы, найбольш адметныя з нашага збору, якасна запісаныя ў прафесійнай студыі, колькасцю не меней за трыццаць. Яшчэ вельмі карціць рабіць альманах, хай яно і цяжка фінансава. Называцца будзе "Апавяданні, казкі і гісторыі беларусаў Іркуцкай вобласці". Там, як вынікае з назвы, будуць гісторыі перасялення, гісторыі сем'яў, расказаныя самімі людзьмі, адметныя казкі, цікавыя фантастычныя гісторыі. Напрыклад, у вёсцы Жызнеўка мне расказалі пра трох братоў, якія заснавалі вёску на пачатку XX стагоддзя, і адзін з іх быў чараўнік. Даволі тыповы – і нашкодзіць мог, і дапамагчы, вылекаваць, напрыклад. А чараваць ён навучыўся яшчэ ў Беларусі, ад нейкага млынара. На Іркуччыне быў шанаваны змеямі, кіраваў імі, а як аднойчы не паклікалі яго на вяселле, дык ён нешта пашаптаў каню, і той заўпарціўся везці маладых, не крануўся з месца... Розных цікавостак назапасілася вельмі шмат. Абавязкова трэба, каб гэта ведалі іншыя.

**– Дарэчы, а што зараз чуваць пра затопленыя вёскі Іркуцкай вобласці? Як людзі спраўляюцца з трагедыяй?**

– Становішча з патопам вельмі складанае, цяжкае і трагічнае. Вёскі, асабліва ў Тулунскім і Ніжнеудзенскім раёнах, пацярпелі найбольш. А ў тых раёнах, між іншага, знаходзяцца, можа, 70% вёсак, запачаткаваных беларускімі перасяленцамі. Напрыклад, затопленая Іяй вёска Пабярэга, заснаваная ў 1904 годзе перасяленцамі з Беларусі, фігуравала ў планах маіх экспедыцый. Я раней там не быў, а цяпер невядома, ці будзе наогул куды ехаць. Канкрэтна гэтую вёску затапіла пад дах. Прытым што самы вялікі патоп, які людзі там помняць – гэта "патоп" 1984 года, які папсаваў людзям агароды. Цяпер жа вада паднялася на 15 метраў, прытым што дамба ў Тулуне разлічаная на 10. Многія хаты проста змыла, загінулі людзі, дасюль шмат жыхароў лічацца зніклымі без вестак, усе рэчы выйшлі са строю, не ўратавалася скаціна. Гэтыя трупы плавалі ў вадзе, паводка павымывала могільнікі, таму зараз медыкі спяшаюцца правесці ўсе патрэбныя прафілактычныя мерапрыемствы, каб не распаўсюдзіліся інфекцыі ды хваробы. Дзяржава дапамагае, але спіс рэчаў, якія падлягаюць кампенсацыі, абмежаваны, і дапамога пакрывае страты мінімальна. Але самая вялікая праблема – гэта, безумоўна, жытло. У ацалелых хатах немагчыма жыць, іх ужо не прасушыць. І калі людзі з тых месцаў раз'едуцца, а ўсё якраз ідзе да гэтага, то да ўсяго яшчэ будуць страчаныя і беларускія асяродкі.

**– Што паробіш, стыхія...**

– А я думаю, што прычына – варварская дзейнасць чалавека. Кажуць, у Саянах, у вярхоўях чатырох рэк, якія разліліся – Ія, Уян, Ака і Біруса – сустрэліся цыклон з антыцыклонам, вылілася шмат вады. Няхай сабе. Але праз тое, што там ужо даўно няма тых лясоў, якія былі раней, бо ўсё высечана або спалена пажарамі, вада папросту не мела ніякай натуральнай перашкоды.

**– Будзем спадзявацца, што злыбеды жыхароў Іркуцкай вобласці на гэтым скончацца, і неўзабаве людзі ўсё ж змогуць аднавіцца... Распавядзіце, чым парадуеце тых, хто прыйдзе на сустрэчу ў Магілёве?**

– Як заўсёды, будзем кіравацца рэакцыяй публікі. Але мы яшчэ не паказалі ўсяго, што рыхтавалі перад прыездам, таму абавязкова пакажам рэдкі танец "Шасцёра". У сібірскіх вёсках яго любяць і ведаюць...

**Гутарыў Сяргей Кандраценка**

гутарка

# Галіна Тумiловіч: Ад'езд – самае цяжкае

Як, адпрацаваўшы 17 гадоў у сістэме вышэйшай адукацыі Беларусі, можна з'ехаць у Канаду, каб выкладаць англамоўным студэнтам французскую? Чым канадскія студэнты адрозніваюцца ад беларускіх? Які статус у канадскім грамадстве мае выкладчык? Пра ўсё гэта – на прыкладзе гісторыі Галіны Тумiловіч.

Паводле адукацыі пані Галіна – выкладчыца гісторыі і французскай мовы. Скончыла Беларускі педагагічны ўніверсітэт у Мінску па так званай "ААНаўскай спецыяльнасці", якая, як тады лічылася, мела адчыняць дзверы ў дыпламатычную кар'еру. Дысертацыю пісала па гісторыі беларускага дваранства. Дарэчы, гэта першае ў айчыннай гістарычнай навуцы спецыяльнае даследаванне вышэйшага саслоўя Беларусі, якое дагэтуль не страціла сваёй актуальнасці. Галіна Тумiловіч – кандыдат гістарычных навук, кавалер Ордэна акадэмічных пальмаў (Францыя), сем гадоў працавала ў кіраўніцтве франка-беларускага факультэта ЕГУ. "Я ніколі не думала і не збіралася з'язджаць. Ад'езд – заўжды вельмі асабістая справа. Могуць быць эканамічныя ці палітычныя прычыны, але само рашэнне заўсёды глыбока праходзіць праз асобу", – тлумачыць Галіна Мікалаеўна. Дамо ж слова самой гераіні.



### "Купалінка" і "Широка страна моя родная"

Першая паездка ў Францыю была ў 20 гадоў на месячную стажыроўку. Цяпер гэтым нікога не здзівіш, але не ў 1980-я ў часы СССР. Гэта была мая першая сустрэча з гутарковай французскай мовай, з Парыжам і Правансам, з тэатральным фестывалем у Авіньёне... Ці быў гэта культурны шок? Так, але для мяне, выхаванай на бабуліных казках, "Двух капітанах" і дзённіку Тані Савічавай з блакаднага Ленінграда, любоў да радзімы, свайго краю ніколі не ставілася пад сумнеў.

Памятаю, як нехта з нас, дзесяці студэнтаў з усяго Саюза, у самалёце па вяртанні з Парыжу заспяваў Дунаеўскага: "Широка страна моя родная". Іншыя падхапілі. Пасажыры-французы глядзелі на нас са здзіўленнем. А недзе ў Францыі, спадзяюся, дагэтуль захаваўся запіс з "Купалінкай" у маім выкананні.

### Даследаванне шляхты і пачаткі польскай мовы

Па вяртанні было заканчэнне інстытута, пасля аспірантура па гісторыі. Абарона ў 32 гады. Адразу па абароне – дзве прыемныя падзеі: запрашэнне на тэлеперадачу па беларускай гісторыі (дзякуючы П. А. Лойку, светлая памяць). Другая – атрыманне навуковай стыпендыі ў Польшчы тэрмінам на год. З таго варшаўскага перыяду і бярэ пачатак мая польская мова. Яе, паралельна з даследаваннем шляхты, я вывучала не дзе-небудзь, а ў Варшаўскім універсітэце.

### Французская – гэта вялікі пакой, ангельская – шуфляда ў шафе

А як жа французская? Так, мне яе не хапала: падтрымка сяброўскіх зносінаў з французамі – гэта важна, але недастаткова. І тут мяне, праз маю былую выкладчыцу французскай мовы, запрашаюць у складзе Чарнобыльскага фонду дапамогі дзецям паехаць на месяц у Бельгію настаўнікам і перакладчыкам! Гэта была выдатная практыка, якая доўжылася да сярэдзіны 1990-х. Бельгія ж застанецца са мной назаўсёды праз любых сяброў ды былых "маіх" чарнобыльскіх дзяцей, сувязь з якімі не спынялася год ад году.

Гэтак польская і французская назаўжды ўвайшлі ў маё жыццё. Дагэтуль ведаю іх лепш за ангельскую. Можна згадаць словы Набокава: "Калі мая руская мова – гэта палац, то ангельская – аднапакаёвая кватэра". У маім выпадку "калі французская – гэта вялікі пакой з высокімі столямі, то ангельская – шуфляда ў шафе. Хай сабе і вялікая, але ўсё ж шуфляда".

### Пасля закрыцця ЕГУ я проста разгубілася

Пасля была праца ў ЕГУ. Спачатку мяне запрасілі туды на пост намесніка дэкана франка-беларускага факультэта палітычных навук, потым я стала дэканам. Адначасова выкладала па-французску сацыяльныя дысцыпліны. Жыццё працякала імкліва: Мінск–Парыж–Рэн–Ліль–Страсбург–Бардо... Бліскучая, але няпростая кар'ера. І ў цэнтры ўсяго – Sacha Tolstoi, ці, як я заўсёды звярталася да яго, Аляксандр Мсціслававіч Талстой, саветнік па культуры ў першым складзе французскай амбасады ў Беларусі, стваральнік нашага факультэта і яго першы дэкан з французскага боку.

Пасля забароны ЕГУ ў Беларусі ўніверсітэт часткова з'ехаў у Вільню, але без нашага факультэта, бо апошні быў праектам МЗС Францыі ў Беларусі (і кіраваўся амбасадай Францыі ў Мінску). Так скончыўся найбуйнейшы акадэмічны праект Францыі ва ўсёй Усходняй Еўропе і адначасна на абшарах былога СССР. Шчыра кажучы, я сама не хацела з'язджаць у Вільню. І дасюль феномен "універсітэта ў выгнанні" – не маё. Тады, пасля закрыцця ЕГУ ў Мінску, я... проста разгубілася.

### Радзіма – гэта наша сям'я, наша мова, але не "гэта ўсё"!

Пасля закрыцця ЕГУ ўжо былыя калегі па-рознаму пачалі да мяне ставіцца. Нехта нават перастаў заўважаць на прыёмах у пасла Францыі. Іншыя працягвалі камунікаваць і нават прапаноўвалі працу. Так, адным з запрашэнняў было ісці дацэнтам у БДУ. Добра памятаю: іду я па чырвонай дарожцы з зялёнай акантоўкай, партрэты вядомых вісяць... І тут я сказала сабе: "Галя, не! Ты з 20 гадоў не хадзіла па чырвоных дарожках. Так лёс склаўся – жыла ў паралельным свеце. Так і працягвай. Радзіма – гэта мама, тата, уся твая сям'я, мова. Але не "гэта ўсё!"

Лёс часта вырашаецца выпадковымі акалічнасцямі (а мо і не выпадковымі?). Патэлефанавалі мне неяк знаёмыя з Канады, каб павіншаваць з новым 2006-м годам. Дазналіся пра ЕГУ і запыталіся, ці не хацела б я прыехаць на год выкладчыцай французскай мовы для англамоўных функцыянераў/чыноўнікаў. Ведаеце, білінгвістычны статус Канады патрабуе ад супрацоўнікаў урада ведання французскай. Цяжка нават цяпер адказаць, чаму я пагадзілася. Мабыць, была ў такім стане. Але і да сёння лічу, што гэта было самае цяжкае, неадназначнае рашэнне, якое я калі-небудзь прымала ў жыцці.

### Першы поспех: з сёмага разу чыноўнік здаў мову!

1 красавіка 2006 г. я апынулася ў Атаве і пачала выкладаць. Спачатку гэта была праца сам-насам – адзін з прынятых тут фарматаў навучання мове. Першым маім вучнем быў функцыянер вельмі высокага рангу з Міністэрства аховы здароўя. Вельмі адукаваны і разумны, ён меўся здаць вусны экзамен па французскай мове, каб захаваць пасаду. Дагэтуль ён спрабаваў здаваць яго 6 разоў (!), але не праходзіў. І тут, пасля чатырох месяцаў штодзённай працы са мной, у яго атрымалася – здаў. Гэта была наша з ім перамога! Гэты першы поспех мяне моцна натхніў.

### 10 гадоў у Carleton University

Пасля двух гадоў працы мне стала цесна ў такім манатонным фармаце. У Атаве два ўніверсітэты (калі не лічыць асобнага каталіцкага): білінгвістычны і англамоўны. У апошні, Карлтан, я даслала сваё рэзюмэ, прайшла суразмову, і вось сёлета будзе ўжо 10 гадоў, як я выкладаю ў складзе французскага дэпартамента. Ці падабаецца мне? Так, бо я люблю кампус, студэнтаў і сваю справу.

### Канадскія студэнты зацыкленыя на выніках: канкурэнцыя

Студэнты тут вельмі патрабавальныя: не ў плане ведаў, але ў плане адзнак. Але ж "выдатна" мы не можам ставіць усім: ёсць такое няпісанае правіла. Так, кожны студэнт амаль што зацыклены на сваіх выніках. Яны разумеюць, што пасля ВНУ іх чакае жорсткая канкурэнцыя, бо заканчэнне ўніверсітэта не дае ніякіх гарантыяў. Гэта па-першае. А па-другое, большасць студэнтаў імкнецца атрымаць тую ці іншую стыпендыю, якая б істотна скарацiла ці нават "скасавала" аплату за навучанне. Таму да навучання яны ставяцца патрабавальна, нават жорстка.

### Madame, я не спаў чатыры ночы...

Некаторыя студэнты кажуць мне часам падчас сесіі і па-за ёю: "Madame, я не спаў чатыры ночы запар..." У свой час менавіта ад студэнтаў я ўпершыню пачула статыстыку: другое месца па смяротнасці сярод моладзі пасля ДТЗ займаюць самагубствы. Навучанне – вялікі стрэс. І не кожнаму дадзена яго пераадолець.

### Палова студэнтаў паралельна працуе

Матэрыяльны фактар – рухавік матывацыі для

# І НЕАДНАЗНАЧНАЕ РАШЭННЕ Ў ЖЫЦЦІ"

студэнтаў. "Не плаціць, плаціць меней ці хаця б мець не надта вялікую матэрыяльную запазычанасць пасля ўніверсітэта" – мэта кожнага студэнта. Багата хто з іх паралельна працуе: ад 30% да паловы групы і нават больш (з майго досведу). Працуюць у барах, кавярнях, крамах...

Тыя, каму пашанцавала, пачынаюць яшчэ са студэнцтва працаваць у пажаданых установах, напрыклад, у тым ці іншым міністэрстве (памятайма, што Атава як сталіца – найперш месца знаходжання федэральнага ўрада). Гэта штодзённасць студэнтаў Канады. Мне здаецца, што ў Беларусі не так. Хаця сучаснай карціны я не ведаю.

### Паміж школай і ВНУ – прорва

А яшчэ ёсць вялізная розніца паміж узроўнем сярэдняй школы і ВНУ. Прорва! У школах вучням кажуць: "Зрабіў – ну і малайчына! Цудоўна!" – за выключэннем, праўда, некаторых вядомых прэстыжных спецыялізаваных школ. Таму дасведчаныя бацькі імкнуцца выбіраць школы для дзяцей і нават мяняюць з гэтай нагоды месца жыхарства. Аднак наогул карціна іншая, і ва ўніверсітэце былых школьнікаў чакае жорсткая канкурэнцыя і насычаная праграма, да якой яны ў большасці выпадкаў не гатовыя.

Я гэта разумею і стаўлюся адпаведна. Не пагражаю другарадным, дазваляю здаваць працу пазней, спакойна стаўлюся да пропускаў, не караю нізкімі адзнакамі, стараюся заахвоціць да навучання праз любоў да мовы, пагаджаюся на дадатковыя кансультацыі на ўмовах валанцёрства і інш. Усё таму, што разумею: без напругі вучыцца немагчыма, нават калі вучышся там, дзе любіш і хочаш.

### Гуманітарныя навукі – не для іх

Канадцы больш наіўныя за беларусаў. Гісарычна ў іх не было такіх цяжкасцяў, як у нас. Калі ёсць чыпсы і хакей, то "ўсё добра" – гэта калі вельмі агульна (як і ў рэшце свету). Канадцы жывуць далёка не ў powerful state, як ЗША, а ў дзяржаве, якая доўгі час жыла ціха ў дабрабыце. Народ сціплы, ізноў жа таму, што гэта не супердзяржава.

Англаканадцы – на першы погляд суровыя, закрытыя і нешматслоўныя людзі. Разам з тым яны надзейныя і спагадлівыя. На іх можна разлічваць. Сацыяльныя і гуманітарныя навукі – не для іх (за выключэннем прафесіяналаў). У гэтым сэнсе беларусы падаюцца мне нашмат больш прасунутымі і адукаванымі ў сэнсе агульнай гуманітарнай культуры: так склалася. Ізноў жа, памятаем, Канада як дзяржава – сучасная і маладая, яна толькі летась святкавала сваё 150-годдзе.

### На нас, калі мы едзем штогод у Беларусь, глядзяць як на вар'ятаў

Калі тут робіш кар'еру – то ідзеш, прыкладам, ва ўрад. Як не, то ідзеш у прыватны бізнес, і тады галоўнае – толькі money-money-money. Ты павінен дабіцца поспеху – тым ці іншым чынам.



На святкаванні 100-годдзя БНР.

На гэтым, як вядома, палягае ўся пратэстанцкая этыка паўночнаамерыканскага грамадства. Ведаю шмат паспяховых людзей з фінансавай сферы, архітэктуры і медыцыны, якія ніколі не едуць на радзіму продкаў, напрыклад, у Ірландыю ці Шатландыю. Маўляў, як гэта адарвацца ад працы на два тыдні?..

Калі ж мы штогод едзем у Беларусь і наогул у Еўропу, то глядзяць як на вар'ятаў ці разумова адсталых. Не разумеюць (тут я маю на ўвазе суседзяў, жыхароў дарагога, upper-middle-class, раёна горада). Для нас жа грошы – гэта тое, што зарабляеш, каб выдаткоўваць. Вернешся і зноў будзеш зарабляць. Чула гэтым разам у Мінску, што ёсць на радзіме людзі, якія могуць нават пазычыць грошы, каб паехаць адпачыць (амаль як у рускага чалавека: "займи, но выпей"). А вось канадцы так не могуць.

### Еўропа і Амерыка непараўнальныя

Няма ніякага абстрактнага "заходняга грамадства". У Францыі – адно, ужо ў Бельгіі – нешта іншае, а ў ЗША ці Канадзе – зусім-зусім іншае. Няма нічога супольнага, калі мы гаворым пра тонкія рэчы – культуру, "душу", культурную антрапалогію нацый у цэлым. Заходнееўрапейская і амерыканская цывілізацыі цалкам розныя, у пэўным сэнсе непараўнальныя. Ёсць "Вялікая васьмёрка", эканамічныя саюзы, але ўсё гэта пра грошы і палітыку. У плане культуры ўсё інакш. Калі не жыць у Канадзе, яе цяжка зразумець. Напрыклад, жыццё англаканадцаў і франкаканадцаў. Але гэта тэма асобнай размовы, пра гэта я ўжо пісала і, магчыма, яшчэ некалі апавяду.

### Статус настаўніка ў сярэдняй школе вельмі высокі

Напрыканцы вернемся яшчэ раз да працы настаўніка. Не выкладчыка на ўзроўні ВНУ, але да настаўніка сярэдняй школы. Іх статус ці, правільней, заробак, вельмі высокі (я не ведаю ніводнай іншай краіны з такім станам рэчаў). Пра настаўніцтва ў школе можна толькі марыць – туды не трапіш.

Праўда, некалі, яшчэ гадоў 10 таму, было значна лягчэй: выкладчыкам французскай мовы перадусім і мне, напрыклад, прапаноўвалі такую магчымасць. Не скарыстала, не пагадзілася. На сёння магу канстатаваць, што канкурэнцыя толькі ўзрасла, усе месцы занятыя. Маладыя спецыялісты (і не толькі) гатовыя ехаць на неймаверна халодную поўнач, каб атрымаць такую працу.

### Свабоды няма нідзе, але кожны можа быць асабіста свабодным

Паколькі я звычайны выкладчык і не раблю кар'еру, то адчуваю сябе свабоднай. Свабода для мяне – галоўнае, як паветра. Ведаеце, свабоды няма нідзе, кажучы пра краіны і грамадствы, якія я добра ведаю, дзе я жыла. Але асабіста чалавек можа быць свабодным у рамках сваёй прафесіі ці нават без яе – калі яму ёсць на што жыць.

Калі не робіш кар'еры, не рвешся на пасады, то належыш толькі сабе. З гэтай прычыны мая ўжо далёкая і тым не менш яскравая еўрапейская кар'ера застаецца ў памяці як цяжкае выпрабаванне і вялікі здабытак адначасна, за якія я ўдзячная свайму лёсу. А цяпер я – вольная птушка і магу скарыстаць тое, што назапасіла цягам жыцця.

**Алесь Кіркевіч, budzma.by,**
**фота з архіву Галіны Туміловіч**

гонар

# МЕДАЛЬ ДА СТАГОДДЗЯ БНР УРУЧЫЛІ Ў МАСКВЕ

4 ліпеня адбылося першае ўручэнне Медаля да стагоддзя БНР у Маскве. Узнагароду атрымаў доктар Аляксей Каўка, гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст, выбітны грамадскі дзеяч, адзін з заснавальнікаў і першы старшыня маскоўскага Таварыства беларускае культуры імя Францішка Скарыны.

Уручэнне адбылося перад маскоўскім помнікам Янку Купалу, які быў усталяваны намаганнямі беларускае дыяспары, у тым ліку Аляксея Каўкі.

radabnr.org



гутарка

# Івонка Сурвілла: У іншых абставінах прысвяціла б жыццё мастацтву

За сваё жыццё спадарыня Івонка шмат напісала і раздала безліч інтэрв'ю на розныя тэмы: ад жыцця дыяспары да палітычнай пазіцыі Рады БНР, якую яна ўзначальвае з 1997 года. Шмат звестак пра асабісты лёс ды шляхі сям'і Івонкі Сурвіллы сабрана ў кнізе "Дарога". Мы ж вырашылі задаць некалькі асабістых пытанняў: пра грошы, замежныя мовы, мастацтва і нават паразважаць, што было б, каб Івонка Сурвілла рэалізоўвала сябе ў вольнай беларускай Беларусі.



## Не мела ніколі вольнага часу

**– У 1944-м ваша сям'я пакінула Беларусь, гэта было рашэнне старэйшага пакалення. Калі б вы на той момант вырашалі цалкам самастойна, ці з'ехалі б перад наступам бальшавікоў?**

– У 1944-м годзе майму тату было 33 гады, мне было восем. Але я дакладна ведала, што наша сям'я перажыла падчас першага прыходу бальшавікоў у Заходнюю Беларусь, і вельмі ўдзячная маім бацькам, што адважыліся з малымі дзецьмі – сястрычцы не было і года – пакінуць свой край. У тых умовах не было іншага выйсця.

**– Ці памятаеце, як зарабілі свае першыя грошы ў жыцці? Ці было гэта цяжка? Якія былі эмоцыі?**

– Добра памятаю. У дзевяць гадоў у Даніі звязала касцюмчык нованароджанаму дзіцятку, і мне за гэта заплацілі... Падчас навучання ў сярэдняй школе ў Францыі заўсёды давала прыватныя ўрокі малодшым вучням. У сямнаццаць гадоў зарабіла дастаткова грошаў за два тыдні, гледзячы двух амерыканскіх хлопчыкаў падчас іх побыту на вакацыях у Парыжы, што змагла ўпершыню заплаціць з вялікім задавальненнем за груз цэглы на будову нашай хаты. Падчас студэнцкіх гадоў працавала таксама: улетку і ў суботы ды нядзелі, каб пакрыць кошт студэнцкай сталоўкі і цягніка да ўніверсітэта. Цяжка не было, але не мела ніколі вольнага часу.

## Быць чужынцам найлепш у Канадзе

**– Вы жылі ў Даніі, Францыі, Іспаніі, Канадзе. Дзе да беларусаў агулам і да вашых блізкіх у прыватнасці ставіліся найлепш? А дзе найгорш?**

– З любоўю згадваю ўсе краіны, дзе жыла. Быць чужынцам найлепш у Канадзе. Тут, магчыма, найбольш паважаюцца правы чалавека. Дзяржаўная палітыка мультыкультуралізму спрычынілася да гэтага. Таксама вельмі ўдзячная канадцам за гасціннасць, з якой яны сустракалі нашых дзетак пасля Чарнобыльскай бяды ды імі апекаваліся. За гэта ўсе мы маем быць удзячныя Канадзе. З'ехаўшы пасля вайны ў Данію, я моцна палюбіла гэты маленькі цудоўны край, дзе пазнаёмілася з такой колькасцю добрых людзей. У Францыі было найцяжэй. Вельмі шчодра ставілася да чужынцаў Іспанія. Муж заўсёды з удзячнасцю згадваў гэты край, які дазволіў яму здабыць адукацыю і працаваць для Беларусі. Але жыццё там не было лёгкае. Калі Канада намагалася знайсці перакладчыкаў з ангельскай на французскую мову дзеля сваёй палітыкі двухмоўя, у 1969 годзе мы вырашылі скарыстацца гэтым. У адрозненне ад іншых беларускіх эмігрантаў, для якіх пачаткі не заўсёды былі лёгкімі, нас вельмі добра тут прынялі. Аплацілі пераезд, далі добры гатэль на першыя два тыдні, і, прыляцеўшы ў Атаву, я на заўтра ўжо была на працы. Працуючы ў Атаве, мы змаглі зрабіць шмат добрага для Беларусі.

## Французскую я ведала лепш за родную

**– У кнізе "Дарога" вы пісалі, што ўсё жыццё працавалі з мовамі ў якасці журналіста і перакладчыка. Гэта была любоў да моваў або прафесійная неабходнасць?**

– Я пайшла навучацца ў Вышэйшую нацыянальную школу мастацтва ў Парыжы і перайшла ў Сарбону, калі ўсвядоміла, наколькі цяжкае і складанае жыццё мастака ў Парыжы. Мовы я любіла, таму асаблівых цяжкасцяў не мела. Між іншым, перакладала не з французскай мовы, а на французскую. У Канадзе лічыцца, што чалавек можа прафесійна перакладаць толькі на родную мову, а французскую я ведала лепш за родную. Але, па шчырасці, усё жыццё шкадавала, што не магла прысвяціць больш часу мастацтву. Так, можна сказаць, што мовы былі для мяне прафесійнай неабходнасцю.

**– Якая мова вам найбольш падабаецца, апрача беларускай, а якую лічыце найбольш складанай?**

– Апрача лаціны, люблю ўсе мовы. Але ж мовы – як пясок між пальцаў. Трэба іх практыкаваць, каб не страціць. Вельмі люблю дацкую, але калі еду ў Данію, то ўжо ёсць патрэба ў пары дзён, каб да яе прывыкнуць. Беларуская найбольш мілагучная, безумоўна, заўсёды будзе на першым месцы. Французская на другім.

## Прыярытэтам была неабходнасць, а не ўласнае шчасце

**– З маленства вы захапляліся мастацтвам, але прафесійная дзейнасць была больш звязаная з журналістыкай, перакладамі, выкладчыцкай дзейнасцю, а ўрэшце – з грамадскім жыццём і палітыкай. Ці не шкадуеце, што цалкам не прысвяцілі сябе жывапісу?**

– Мастацтвам я захаплялася ўсё жыццё і дагэтуль лічу, што ў іншых абставінах – у беларускай Беларусі – прысвяціла б жыццё мастацтву. Але тут трэба было выбіраць. І падчас выбару часцяком прыярытэтам была неабходнасць, а не ўласнае шчасце ці задавальненне. Але, дзякаваць Богу, стварыла крыху добрых працаў. Не наракаю.

## Мы доўгі час былі адзіным голасам нашага народа

**– Ад 1997 года вы ачольваеце Раду БНР. Якое дасягненне ці дасягненні за гэты час вы лічыце галоўнымі? Чаму?**

– Само існаванне Рады, 100-гадовае існаванне – вялікае дасягненне нашага народа. Удзячная за тыя 22 гады, якія мне было дадзена прысвяціць Радзе. Што да самой працы – усё важнае. Мы доўгі час былі адзіным голасам нашага народа ў навакольным свеце, калі Масква хавала, што Беларусь наогул існуе на Зямлі, былі адзіным "агеньчыкам надзеі" для Быкава і для той часткі нашага народа, якая верыла ў ідэалы 25-га сакавіка! Усё рабілі, каб свет не забыўся пра прыгнечаны чужынцамі народ. Берaглі нашу мову, нашу спадчыну, нашы каштоўнасці. Наш прыгожы вокліч "Жыве Беларусь!" таксама ёсць дасягненнем Рады.

**– Як выглядае звычайны працоўны дзень старшыні Рады БНР?**

– Перадусім непрадказальны! Да ўсяго, што трэба зрабіць, штодня дадаецца яшчэ нешта.

**– Доўгі час вы разам з роднымі і калегамі даводзілі замежнікам праўду пра Беларусь, а часам і наогул сведчылі пра тое, што гэта не Расія, а цалкам асобны край са сваёй мовай, гісторыяй, культурай. Ці ёсць такая патрэба цяпер? Няўжо Беларусь – дагэтуль terra incognita для тых жа канадцаў?**

– Яшчэ ёсць шмат "анальфабэтаў" (непісьменных людзей – *аўт.*) у свеце, якім цяжка зразумець постсавецкую рэчаіснасць, адрозніць Савецкі Саюз ад Расіі. Для іх і мы, і ўкраінцы, і прыбалты, і армяне, і грузіны – усё гэта расійцы. Да іх трэба дадаць русафілаў, надзвычайна актыўных у некаторых краінах свету. Канадцы сапраўды адкрылі Беларусь дзякуючы нашай праграме па дапамозе дзеткам "Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі", у рамках якой працавала 42 аддзелы ад акіяна да акіяна ў Канадзе. Terra incognita – вынік імперыялізму нашага суседа, але таксама і нядбайнасці нашага народа.

## Толькі дома табе ніхто не скажа: "Не падабаецца – едзь дадому!"

**– У інтэрв'ю для "Радыё Свабода" вы раілі маладым беларусам не з'язджаць з краіны, калі ад іх гэта залежыць. Ці магчыма ў сучасным свеце без "жалезных заслонаў" утрымаць моладзь на Радзіме? Ці трэба гэта наогул?**

– Моладзь і старэйшыя кандыдаты на эміграцыю не асэнсоўваюць, што значыць быць у кожнай краіне чужынцам. Пакуль забяспечваюць першыя чалавечыя патрэбы, усё ў парадку. Але раптам з'яўляюцца новыя патрэбы, амбіцыі, пытанні. На гэтую тэму можна было б цэлыя кнігі пісаць. Толькі ў сябе дома табе ніхто не скажа: "Калі не падабаецца – едзь дадому!" Як пісаў Адам Міцкевіч, "толькі той ведае, як моцна любіць свой край, хто яго страціў".

**– Як мае выглядаць Беларусь, каб з яе не толькі не з'язджала карэннае насельніцтва, але і каб для замежнікаў наш край стаўся прывабным?**

– Карэннае насельніцтва з'язджае толькі таму, што ў дадзены момант не можа задаволіць сваіх элементарных патрэбаў у сябе дома. З гэтага і варта пачынаць. Даць нашаму здольнаму і працавітаму народу магчымасць жыць па-людску, нармальна, так, як жывуць іншыя народы Еўропы. Для гэтага толькі патрэбная свая ўлада, для якой прыярытэтам былў бы дабрабыт свайго ж народа. Замежнікі заўсёды любілі наш народ: гасцінны, добры, разумны. Дастаткова забяспечыць тут нармальныя ўмовы побыту для турыстаў, каб Беларусь стала такой жа прывабнай, як суседзі, а мо і болей.

Алесь Кіркевіч, budzma.by

музыка

# Апошняе “Басовішча”: лепш спыніць яго на высокай ноце, чым калі б яно памерла само

У Гарадку на Падляшшы закончылася гісторыя Фестывалю музыкі маладой Беларусі “Басовішча”. Арганізатары вырашылі, што сёлетняе “Басовішча”, 30-е па ліку, стане апошнім.




Ян Максімюк, які быў вядоўцам на двух першых “Басовішчах”, у 1990 і 1991 гадах, пабываў на перадапошнім фестывальным канцэрце, у пятніцу 19 ліпеня 2019 года, і прыслаў на “Радыё Свабода” з Гарадка жменю сваіх ветэранскіх рэфлексій.

З братам Аляксандрам і нашымі жонкамі мы пад’ехалі на апошняе “Басовішча” якраз пад выступ Ігара Варашкевіча з “Крамай”. Хто можа быць больш знакавай постаццю фестывалю за Ігара Варашкевіча для такіх ветэранаў “Басовішча”, як мы? Хіба што Лявон Вольскі з “Мрояй” або і без яе...

Помніцца, што Ігар Варашкевіч, які недзе пад канец 1980-х завязаў з “Бондай”, на “Басовішчы” з’явіўся ўпершыню ў 1991 годзе – тады гурт, які яму падыгрываў, называўся “Рокіс”. А ў 1992 годзе, калі адным з вядоўцаў фестывалю быў мой брат, Ігар выступаў на “Басовішчы” ўжо з “Крамай”. І потым, як лідар “Крамы”, ён з’яўляўся на фестывалі амаль штогод, нязменна выклікаючы энтузіязм публікі, як нашай падляшскай, так і менскай.

На заканчэнне свайго выступу Ігар сказаў файную рэч, якая трапіла ў прыхільныя вушы такой ветэранскай тусоўкі, як мы з братам – гэтая тусоўка сёння, 30 гадоў пазней, сядзела спакойна на лавачках са сваімі малжонкамі і пігулкамі ад ціску і дыябету, і па-філасофску глядзела на выканаўцу ды моладзь, якая гайдалася каля сцэны пад гукі “Стэфкі” ў трох гістарычна адрозных версіях. “Самі разумееце, што на той тэрыторыі, адкуль мы прыехалі, такога фестывалю як “Басовішча” арганізаваць немагчыма, – кампліментаваў і арганізатараў фестывалю, і гарадоцкую публіку лідар “Крамы”. – Дзякуй усім за гэтыя трыццаць гадоў”.

У перапынку паміж выступамі Ігара Варашкевіча і нашай Ілоны Карпюк (Дамброўскай) з гуртам “Ilo&Friends”, рэпарцёрка “Радыё Рацыя” папрасіла мяне ў мабільную студыю, адкуль вялася трансляцыя “Басовішча” на ўвесь свет, каб я падзяліўся з гэтым светам сваімі меркаваннямі і ўспамінамі пра тое, што бачыў на фестывалі за апошнія трыццаць гадоў, то бок за ўсё паўжыцця. “Гэта жывая трансляцыя, і гэта адна з рэчаў, якая вельмі добра ім удаецца”, – растлумачыў мне сітуацыю мой брат, які нейкі час таму працаваў у Рацыі і займаўся, сярод іншага, наладжваннем такіх трансляцый.

Адно з пытанняў да мяне было, зразумела, і пра тое, што я думаю пра закрыццё “Басовішча”. На гэтае пытанне я паспрабаваў адказаць у сваім тэксце для “Свабоды” тыдзень таму, але ў Гарадку ў мяне была нагода запытацца пра гэта і ў Лідкі Пякарскай, кіраўніцы Беларускага аб’яднання студэнтаў у Польшчы і галоўнай арганізатаркі “Басовішча”.

“Прычына, што “Басовішча” спыняецца, не ў тым, што няма ахвотных рабіць яго далей. Ахвотныя, пэўна, знайшліся б, але імпрэза цяпер набыла настолькі маштабны і прафесіянальны характар, што цяжка далей арганізаваць яе так, каб утрымаць гэты ўзровень, каб “Басовішча” не заняпала і не памерла само. Лепш закончыць фестываль цяпер, калі ён яшчэ добра выглядае, і не чакаць часу, калі ніхто сюды не прыедзе, бо не будзе дзеля чаго прыязджаць. Гэта ўжо завялікая імпрэза, як на магчымасці нашай студэнцкай арганізацыі”, – сказала мне Лідка, з чыёй мамай, Барбарай, мы вялі першае “Басовішча” ў 1990 годзе.

Калі паспрабаваць дэшыфраваць гэтыя абцякальныя фармулёўкі, якія безумоўна рыхтаваліся для “знешняга карыстання”, то тут узнікаюць, калі можна так сказаць, як мінімум тры сюжэты.

Па-першае, у Беларускага аб’яднання студэнтаў сапраўды ўжо няма дастаткова матываваных чалавечых рэсурсаў, каб цягнуць “Басовішча” далей і арганізаваць яго на “прафесіянальным узроўні”. Лідка мне сказала, што сёлета ёй дапамагалі ў арганізацыі фестывалю, прынамсі на апошнім яго этапе, каля трыццаці добраахвотнікаў, то бок значна больш, чым у папярэднія гады, але сама прызнае, што далей ужо не стае сілаў рабіць такую “маштабную” імпрэзу.

Па-другое, пераважная большасць сродкаў на арганізацыю “Басовішча” ідзе з дзяржаўнай касы – з Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі ў Варшаве і з Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства ў Беластоку. Штогод студэнты шукаюць і пабочных, прыватных спонсараў, але сумы, якія збіраюцца такім шляхам, адчувальна не папраўляюць фінансавай сітуацыі фестывалю. Неймаверную кучу грошай з’ядае тэхнічнае забяспечанне “Басовішча” – падрыхтоўка сцэны, добрай гукаўзмацняльнай апаратуры і іншага абсталявання, ахоўнікі...

На ганарары выканаўцам застаецца мізэр. Каб запрасіць, напрыклад, зорку польскай рок-сцэны на гарадоцкі фестываль, трэба лічыцца з выдаткам парадку 10 тысяч даляраў. Зразумела, такіх грошай арганізатары “Басовішча” не маюць. Сёлета Варшава дала на ўвесь фестываль 90 тысяч злотых (каля 25 тысяч даляраў). У папярэднія гады давала яшчэ меней – па 70 тысяч злотых. Бедны народ не можа мець багатай і прыцягальнай культуры – магчыма, гэтае сцверджанне можа камусьці падацца занадта брутальным, аднак жа ўся гісторыя беларускай культуры пацвярджае гэтую жорсткую праўду штодня. Як казаў Маркс, быццё вызначае свядомасць. Наадварот, на жаль, наагул не бывае.

Па-трэцяе – але пра гэта ніхто з арганізатараў не скажа вам публічна – “Басовішча” як фестываль музыкі “маладой Беларусі” ужо даўно вычарпаў сваю формулу, якую заклалі ў яго арганізатары 1990-х гадоў. Рок-музыка ці бардаўская песня такога “паўафіцыйнага”, “паўандэргра ндавага” статусу, які яна мае ў беларускай культурнай прасторы, даўно перастала быць нечым, што ў змозе збіраць вялікія аўдыторыі каля сцэны. Інакш кажучы, сёння вельмі цяжка канкураваць, асабліва без вялікіх грошай, з YouTube, Spotify і таму падобнымі вынаходствамі...

Сказаўшы ўсё гэта, хачу на заканчэнне адзначыць тое, што на сцэне “Басовішча” 19 ліпеня 2019 года зачапіла мае вушы наймацней. Гэта быў выступ гурта “Ilo&Friends” – сапраўдная найвышэйшая ліга “музыкі маладой Беларусі”. І музыка класная, і лідарка гурта абаяльная, і тэксты не банальныя. З музыкай Ілоны і яе сяброў у вушах і ў душы я і вярнуўся з Гарадка ў Беласток, журботны, але шчаслівы. Усё ж такі Басовішча – гэта нешта... Мы не да канца прамарнавалі наш час цягам апошніх трыццаці гадоў.

**Ян Максімюк,**
**svaboda.org**

**навіны**

# БЕЛАРУСЫ Ў ЗША АДНАВІЛІ ПОМНІК БЕЛАРУСКІМ ЗМАГАРАМ

Пра гэта паведаміў у Фэйсбуку актывіст Вадзім Васільеў.



20 ліпеня ў ЗША, штат Нью-Джэрсі, мястэчка Саўт-Рывер, былі скончаны працы па аднаўленню помніка змагарам за вольную Беларусь. Прадстаўнік беларускай дыяспары ў ЗША Вадзім Васільеў падзяліўся на сваёй старонцы ў Фэйсбуку добрай навіной і фотаздымкамі помніка.

Помнік быў усталяваны ў 1974 годзе. З таго моманту ён моцна састарэў, а бела-чырвона-белыя фарбы аблупіліся.

Беларусы з'явіліся ў Саўт-Рыверы яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя. У 1950-я гады мястэчка стала адным з цэнтрам беларускай паваеннай эміграцыі. Тут існавалі беларускі праваслаўны прыход, царква, культурны цэнтр, шэраг грамадскіх і сацыяльных арганізацыяў, выдаваліся газеты і часопісы.

**novychas.by**
**паводле facebook.com**

**in memoriam**

# ПАД ГЛЫБОКІМ ПАСТАВІЛІ ПОМНІК НА МАГІЛЕ ЖУРНАЛІСТА "РАДЫЁ СВАБОДА" ЯЗЭПА БАРЭЙКІ

У Гірстунах, што ля Глыбокага, паставілі надмагільны помнік журналісту і дыктару "Радыё Свабода", гісторыку і дзеячу беларускай міграцыі Віктару Сянкевічу (сапраўднае імя — Вінсэнт Сенькавец, а псеўданім на — Язэп Барэйка).




Як адзначае рэдактар газеты "Вольнае Глыбокае" Уладзімір Скрабатун, помнік пастаўлены на сямейным пахаванні – побач з Віктарам Сянкевічам ляжаць ягоныя маці і жонка.

"Прах абаіх год таму прывёз з Сан-Францыска сын Майкл Сянкевіч, – расказвае Скрабатун. – На помніку эпітафія на беларускай мове, так захацеў сын Майкл, які прысутнічаў пры пахаванні праху свайго бацькі і маці год назад, так і цяпер пры ўстаноўцы помніка. Ён прыбыў з Сан-Францыска з жонкай і старэйшым сынам. З тэкстам эпітафіі на маю просьбу парупіўся Зміцер Бартосік, які працягвае справу Віктара Сянкевіча на "Радыё Свабода".

Віктар Сянкевіч памёр у верасні 2017 года ў Сан-Францыска на 92-м годзе жыцця. На радзіме ягоны прах быў пахаваны летась.

Віктар Сянкевіч нарадзіўся на Глыбоччыне, падчас вайны трапіў у Нямеччыну, пасля ў Францыю, дзе браў удзел у руху Супраціву; пасля як былы грамадзянін даваеннай Польшчы трапіў у корпус Андэрса, закончыў вайну ў Італіі.

Пасля вайны, як і шмат хто з былых жаўнераў корпусу Андэрса, Сянкевіч пасяліўся ў Вялікабрытаніі, адкуль на пачатку 1950-х ён паехаў па навуку ў бельгійскі Лювен. У 1953 годзе пераехаў у Іспанію, скончыў там філасофскі факультэт Мадрыдскага ўніверсітэта, абараніў дактарат на тэму гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У 1958–1961 гадах працаваў у беларускай секцыі Нацыянальнага іспанскага радыё. Пасля гэтага паступіў на працу ў тэхнічнай абслузе перадатчыка "Радыё Свабода" ў мясцовасці Паламас каля горада Жыроны ў Каталаніі. З часам ён пачаў дасылаць у Мюнхен свае перадачы. Сянкевіч пакінуў па сабе таксама немалую творчую спадчыну – сотні скрыптоў на самыя розныя тэмы беларускай гісторыі.

"Гаварыў Язэп Барэйка", – гучала на заканчэнне ягоных перадач у гады халоднай вайны.

**svaboda.org**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЖНІВЕНЬ 2019 ГОДА

**2 жніўня**
- 120 гадоў таму, у 1889-м, памёр Ян Ваньковіч, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., мастак.

**5 жніўня**
- 155 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.
- 20 гадоў таму, у 1989-м, памёр Лазар Ран, мастак.

**6 жніўня**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, літаратуразнавец.
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Міхась Рагуля, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.
- 25 гадоў таму, у 1994-м, у Вільні пачаўся З'езд беларусаў Балтыі.

**7 жніўня**
- 140 гадоў таму, у 1879-м, нарадзіўся Пётр Крачэўскі, грамадска-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**10 жніўня**
- 90 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Алесь Ставер, паэт, празаік, драматург.

**14 жніўня**
- 225 гадоў таму, у 1794-м, нарадзіўся Міхаіл Балінскі, гісторык, публіцыст.
- 130 гадоў таму, у 1889-м, памёр Аляксандр Гінтаўт Дзевалтоўскі, рэлігійны дзеяч.

**15 жніўня**
- 95 гадоў таму, у 1924-м, нарадзіўся Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**16 жніўня**
- 150 гадоў таму, у 1869-м, памерла Габрыэля Альбіна Пузына, паэтэса, мемуарыстка.

**20 жніўня**
- 100 гадоў таму, у 1919-м, памёр Іван Луцкевіч, грамадска-палітычны дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст.
- 95 гадоў таму, у 1924-м, на Першым з'ездзе беларускіх студэнтаў у Празе створана Аб'яднанне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (АБСА).

**26 жніўня**
- 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Сяргей Новік-Пяюн, паэт і пісьменнік.

**28 жніўня**
- 275 гадоў таму, у 1744-м, памёр Васіль Вашчыла, кіраўнік узброенага сялянскага паўстання ў Крычаўскім старостве ў 1740-х гг.
- 145 гадоў таму, у 1874-м, нарадзіўся Аляксандр Уласаў, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.
- 85 гадоў таму, у 1934-м, нарадзіўся Васіль Мельяновіч, палітык, дзеяч эміграцыі ў ЗША.
- 15 гадоў таму, у 2004-м, у Празе пачалася Першая сустрэча беларусаў Еўропы.

**30 жніўня**
- 215 гадоў таму, у 1804-м, нарадзіўся Аляксандр Ходзька, паэт, фалькларыст, усходазнавец.
- 90 гадоў таму, у 1929-м, памёр Паўлюк Трус.

**Беларусы ў свеце**
№ 7 (206), ліпень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12